
Андрэй МАРОЗ ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Адышоў Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ ➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 09 (3329) Год LXV Беласток, 01 сакавік 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Марш памяці выклятых жаўнераў і нашая «Вечная памяць»

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**Праваслаўныя жыхары Беласточчыны разам са святарамі ў канцы студзеня і пачатку лютага гэтага года маліліся да святых мучанікаў Падляшскай зямлі, забітых атрадам Нацыянальнага вайсковага задзіночання, якім камандаваў капітан Рамуальд Райс «Буры». Прасілі ў іх дапамогі ў жыццёвых выпрабаваннях і ўшаноўвалі месцы іх пакутніцкай смерці. Гэтыя здарэнні і малітвы мелі асаблівае значэнне ў Гайнаўцы 23 лютага, у кантэксце арганізаванага ўжо пяты раз Маршу памяці выклятых жаўнераў. Удзельнікі шэсця крычалі, між іншым, «Буры, Буры наш герой» і неслі банеры з выявай «Бурага». Альтэрнатыўную сустрэчу з лозунгам «Вечная памяць» арганізавалі ў гэты дзень у цэнтры горада перад нацыяналістычным шэсцем жыхары Гайнаўкі і яе наваколля, каб ушанаваць памяць забітых 80 мірных жыхароў забітых атрадам «Бурага». Раней гайнаўяне маліліся ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля да святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі, у лік якіх уключаны вазакі забітыя каля Пухалаў-Старых.**

Штогод Марш памяці выклятых жаўнераў выклікае ў Гайнаўцы і іншых месцах Беласточчыны многа эмоцый. Так было ў гэтым годзе. Атрадам «Бурага», які праслаўляўся ў час маршу, на зломе студзеня і лютага 1946 года было забітых звыш 80 праваслаўных беларусаў, у тым ліку дзеці і жанчыны. У кастрычніку мінулага года Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы далучыў 30 вазакоў, забітых атрадам «Бурага» каля Пухалаў-Старых, да ліку святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі. Сталі святымі мучанікамі гаспадары з Краснага Сяла, Збуча, Чыжоў, Ягаднік, Арэшкава, Пасечнік, Лозіц, Падрэчан, Ракавіч, Махнатага, Крывой, Залешан і Вулькі-Выганоўскай, распалажаных на Гайнаўшчыне і Бельшчыне. Паявіліся таксама меркаванні, што можа разглядацца далучэнне да ліку святых мучанікаў іншых пакутнікаў, забітых атрадам Рамуальда Райса ў Залешанах, Вульцы-Выганоўскай, Занях і Шпаках.

З заклікам да бургамістра Гайнаўкі Ежы Сірака забараніць пяты Марш памяці выклятых жаўнераў звярнуўся старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, які адзначыў, што гайнаўскі марш абурае мясцовых грамадзян і выклікае негатыўныя эмоцыі асабліва ў родных забітых у 1946 годзе атрадам «Бурага» і сведак трагічных падзей. На два дні перад гайнаўскім маршам у час нечарговага пасяджэння Рада горада прыняла пастанову, у якой радныя асуджаюць як сам «крывавы рэйд» атрада «Бурага» 74 гады таму так і арганізацыю Маршу памяці выклятых жаўнераў. Прысутныя на сесіі 16 радных (у Радзе 21 чалавек) аднагалосна звярнуліся да парламентарыяў з заклікам забараніць сходы, якія прамуюць нянавісць і ствараюць пагрозу для добрых суадносін паміж грамадзянамі Рэчы Паспалітай розных нацыянальнасцей і канфесій. (*Дакументы звязаныя з маршам і пастанова гарадской рады чытайце на 4 старонцы. рэд.*)


На сустрэчу «Вечная памяць» прыйшло многа людзей, каб ушанаваць памяць ахвяр атрада «Бурага»







У дзень Маршу памяці выклятых жаўнераў альтэрнатыўную сустрэчу "Вечная памяць» зладзілі мясцовыя жыхары, каб ушанаваць памяць мірных жыхароў забітых атрадам «Бурага». Спачатку ўдзельнікі сустрэчы, сярод якіх былі нашчадкі ахвяр «Бурага», разам са святарамі маліліся ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы да святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі, між іншым, да вазакоў забітых каля Пухалаў-Старых. Малітвы ўзначаліў настаяцель прыхода мітрафорны протаіерэй Іаан Раманчук, які прачытаў фрагмент Евангелля на беларускай мове і, звяртаючыся да вернікаў, заявіў, што мірныя жыхары нашых вёсак былі забіты таму, што былі праваслаўнымі беларусамі. Будучы яшчэ настаяцелем Успенскага прыхода ў Чыжах, айцец Іаан Раманчук разам з сем'ямі забітых вазакоў і іншымі паломнікамі ездзіў маліцца на ранейшыя месцы пахавання іх астанкаў каля Пухалаў-Старых, на могільнік у Кліхах і вайсковы могільнік у Бельску-Падляшскім.

Пасля малітваў у царкве на скверы Дзмітрыя Васілеўскага сабраныя ўшанавалі памяць ахвяр атрада «Бурага». Вучні зачыталі іх імёны і прозвішчы, а жыхары Гайнаўшчыны і прыезджыя паставілі знічы каля помніка ахвярам войнаў і рэпрэсій. Сярод сабраных былі нашчадкі ахвяр атрада «Бурага», жыхары горада, мясцовыя самаўрадаўцы і лідары палітычных партый. Еўрадэпутат, кандыдат у прэзідэнты РП Роберт Бедрань і старшыня партыі «Разам» Адрыян Зандберг у размове з журналістамі асудзілі дзеянні атрада «Бурага» ў 1946 годзе на Гайнаўшчыне і Бельшчыне і крытыкавалі марш, які раздзірае раны з мінулага. Сабралася некалькі соцень людзей у розным узросце. Найбольш прыйшло звычайных жыхароў Гайнаўшчыны, якія рашыліся ўшанаваць памяць ахвяр атраду «Бурага» і выявіць свой супраціў для арганізаванага гадзіну пазней маршу.

— Арганізуючы сустрэчу, мы хацелі выявіць супраціў да арганізаванага сёння Маршу памяці выклятых жаўнераў і мірным спосабам ушанаваць памяць ахвяр атраду «Бурага». Мы не ладзім пратэст, толькі грамадскі супраціў. Кожны мог прыйсці на сустрэчу і ўшанаваць памяць забітых атрадам «Бурага» ахвяр, запаліць знічы. Мы не можам быць абы-якавымі да маршу, у час якога «Буры» называецца героем, а ў Гайнаўцы зрабіўся непатрэбны падзел, — сказалі прадстаўнікі ініцыятыўнай групы, якая ўжо

чытайце ☞ 2


9 770546 196017



# Не да жартаў

Гэты мужчына прыцягнуў маю ўвагу адразу. Статны, акуратны, сталага веку, з кійком у руцэ, і па адной штаніне было бачна, што замест нагі ў яго пратэз. Ён збіраўся нешта спытаць у іншых людзей на прыпынку гарадскога транспарту, але не стаў гэта рабіць у першага, хто трапіўся бліжэй. Ён абышоў і маладзёнаў, і хмурую жанчыну сярэдняга веку, і ўсіх астатніх, і звярнуўся толькі да мужчыны, які быў блізкі яму па гадах. Такое разуменне прыстойнасці і ўласнай вартасці зараз мала ў каго сустрэнеш. Гэта чалавек рэдкай фармацыі і даўнейшага выхавання. Такія людзі ўжо даўно перавяліся. Але зрэдку яшчэ сустракаюцца. І гумар у іх таксама ўнікальны як і яны.

— Добры дзень. Прабачце за непакой, але мушу спытацца. Падкажыце калі ласка, як мне даехаць да абласнога шпіталя, — звярнуўся ён да мужчыны, і як толькі пачынаў здароўкацца прыпадняў капялюш.

Мужчына да якога ён звярнуўся ацаніў ветлівасць госця Гародні і падрабязна растлумачыў як да таго шпіталя дабрацца. І між імі завязалася размова.

— Я кожны год прыязджаю сюды, каб прайсці дактароў. Бо каб мне прадоўжылі групу інваліднасці, мушу штогод паказваць лекарам, што новая нага ў мяне яшчэ не вырасла, — пажартаваў мужчына з кійком у сярэдзіне размовы.

— А ці маеце дзе заначаваць? — пацікавіўся суразмоўца. — Тыя дактары мусяць вас да сябе дахаты запрасіць па ўсіх законах прыстойнасці, раз выцягнулі вас у горад праверыць ці не вырасла нага, — падтрымаў ён жартаўлівы тон госця.

Жарты мужчын спадабаліся і ўсім астатнім на прыпынку. Нават маладзёны прыціхлі і лавілі кожнае слова. А ў хмурай жанчыны ажно твар пасвятлеў. А мужчыны гумарылі далей.

— Дзякуй, але маю дзе спыніцца. Дачка ў мяне тут жыве. І ведаеце што, нейкі ў яе тэлевізар больш разумны, чым у мяне на хутары. Мусіць ажно сто каналаў паказвае. Пад такі добра засынаць. Бо пакуль знойдзеш, што хочаш паглядзець, то ўжо і спіш.

— А ці што цікавае знайшлі хоць раз?

— Ну так. Учора паказвалі, як у Афрыцы саранчы так шмат развялося, што ўсю траву могуць з'есці. Дык яны тую саранчу труцяць хіміяй! Зусім падурнелі! Я таксама траву высяваў у сябе на хутары. Але ж не рэжу авечак ды кароў за тое, што яны траву ядуць. Для іх я тую траву і высяваю.

— Я таксама пра гэта думаў, — падтрымаў яго суразмоўца. — Трава для таго і ёсць, каб нехта яе еў. Хай бы наадварот, раскармлівалі тую саранчу, і тады яе тлустую лавілі б жыўцом ды кансервавалі б. Ёсць багата краін, дзе такое любяць есці. А ў разе чаго можна было б для жывёлы корм з яе рабіць. Ці алей які з яе ціснулі б. А яны труцяць тую бедную саранчу! Зусім падурнелі! А яшчэ кажуць, што тая саранча кожны дзень з'ядае столькі ж, колькі спажывае харчавання такая краіна як Нямеччына!

— Вось табе раз, — усміхнуўся мужчына з кійком. — Няўжо немцы так шмат сталі есці?

— Хіба не, — махнуў рукой другі. — Немцаў там у Нямеччыне амаль не засталося. Гэта, хіба, прыезджыя маюць такі добры апетыт. Ды і нашых туды шмат паехала людзей. І ніхто на апетыт не скардзіўся. А вось цікава, калі лекары ўбачаць, што нага ў вас узяла ды вырасла, то што тады? Забяруць групу назад?

— Яны то хіба толькі гэтага і чакаюць, каб мне пенсію па інваліднасці не плаціць, — усміхнуўся мужчына. — Але ж і я не такі дурны. Як убачу, што нага адрастае, то перад камісіяй адрэжу яе зноў.

— О! Гэта вы добра прыдумалі, — падтрымаў суразмоўца жарт. — А то як убачаць новую нагу, дык могуць і ў Афрыку адправіць саранчу адлоўліваць.

Ад стрыманага смеху ажно кіс ужо ўвесь прыпынак. Але тут нечакана размова павярнулася ў другі бок.

— А яшчэ той даччын тэлевізар сказаў, што расійскі начальнік нашаму паабяцаў усё ж даць нафту, — сказаў уладальнік кійка і ў адно імгненне яго жартаўлівы выраз на твары памяняўся на заклапочаны.

— О, гэты як мякка пасцеле, то потым вельмі жорстка спаць, — адказаў суразмоўца і яго голас набыў трывожныя ноткі.

Прысутныя на прыпынку таксама спахмурнелі як па камандзе. Больш ніхто нічога не гаварыў ажно пакуль не прыйшоў аўтобус. Паднятая тэма не наводзіла на жартаўлівы лад. Ды і ўвогуле размаўляць перахацелася.

Віктар САЗОНАЎ

# Час плыве

Час праходзіць хутчэй у двух выпадках. Па-першае, ён уцякае ад нас, тым больш, чым мы вышэй над зямлёй. Гэта фізічна правільная ісціна і адпавядае тэорыі Альберта Эйнштэйна, што час на Зямлі цячэ хутчэй на вялікіх вышынях і павольней на малых. Тое ж адбываецца і з часам, калі мы занадта хутка перабіраем нагамі. Тады наш час адносна часу, вымеранага чалавекам, які знаходзіцца ва ўстойлівым адпачынку, непазбежна паскараецца. Эфект паскарэння часу з-за вышыні штодня адчуваюць горцы або горныя козы. У другім выпадку ні ў чым нявінныя касманаўты і нічога — у чым мая асабістая канцэпцыя, вінаватыя палітыкі. Прытым пакутуюць у абодвух гэты выпадках — хочуць яны гэтага ці не, хаця яны абавязкова пра гэта ведаюць. Гэты эфект, званы па-вучонаму дылятацыяй (пашырэннем) часу, можна надзейна вымераць дзякуючы дакладным гадзіннікам. Яны надзейна пакажуць адрозненні нават на вышыні некалькіх сантыметраў. Аднак возьмем для прыкладу розніцу паміж горамі і нізінамі. Гадзіннік горца, які стаіць на Геванце, будзе паказваць іншы час, чым гадзіннік на нізіне — на Падляшшы мяне, можа не страхапута, якім часам уяўляю сябе, але таксама не спраўнай горнай казы. Нават калі б я паклаў гэты гадзіннік на галаву, вымераны ім час не адпавядаў бы таму на Геванце. Іншая справа, што з гадзіннікам на галаве я не выглядаў бы асабліва разумным. Нічога! Згодна з тэорыяй Эйнштэйна, мудры і дурны чалавек у нізінах будзе адчуваць аднолькава, што час не цячэ павольней, думкі ў яго галаве плаўна рухаюцца, а само жыццё цячэ больш спакойна. Прынамсі, я такі — шчаслівы і хай там дурнейшы ці разумнейшы. Калі б мне давялося жыць у гарах, я, верагодна, не вытрымаў бы і пакаціўся на дно. Я не кажу, што ў хуткім часе стану піць ці яшчэ горш — узяўся б ад роспачы за... палітыку. Палітыка, асабліва ў Польшчы, ужо дасягнула дна, няхай яна будзе культывавацца ў гарах ці ў нізінах. Але толькі дзякуючы ёй я кампенсаваў бы сабе страту нізіннага часу. Наадварот — з горцамі, якія спусціліся ў даліны. Паскораны час, уласцівы іх „высотнаму" паходжанню, разыходзіцца з нізінным часам, у якім яны павінны былі дзейнічаць, і ў мяне, калі б я жыў у гарах. У любым выпадку, некаторыя горцы співаюцца, вядома, што, як і паскораны час, алкаголь таксама скарачае жыццё, таму можна ставіцца да іх сувымерна. Іншыя ўваходзяць — і то як! — у палітыку. Яна таксама, як я ўжо паказваў вышэй, можа быць кампенсацыйным фактарам.

Нягледзячы на тое, што ў нашай краіне яна дасягнула маральнага дна, усё яшчэ ўтрымлівае элемент уздыму. Каб дамагчыся поспеху, трэба падняцца на пік улады. Дзе ў іншым выпадку, як не на вяршыні, горац адчуў бы сябе лепш?!. Гэта не азначае, што дасягнуўшы вяршыні, ліквідуецца праблема неадпаведнасці часу. Аднак дзіўна, што вяршок улады зараз асядлаў цяпер, ну... чалавек ва ўсім нізінна-мазавецкі. Але гэта дарэчы. Старшыня Вярхоўнай кантрольнай палаты Марыян Банась альбо прэзідэнт Дуда, які паходзіць з рэгіёна Новага Сонча, — відавочны прыклад праблем з пашырэннем палітычнага часу. Зняволеныя стабільным, быццам бы нізінным рытмам, у якім мудрая палітыка звычайна пульсуе, яны не ў стане пазбавіцца ад уласцівых ім звычак, звязаных з паскораным метрумам гор, у выніку якога яны пастаянна мінаюць абодва часы. Але каб толькі часы міналіся! Услед за гэтым ідуць іх словы і дзеянні. І, нарэшце, яны самі размінаюцца з рэчаіснасцю і часта таксама з праўдай. У палітыкаў, і не толькі ў Польшчы, назіраецца такая бяда: чым вышэй яны падымаюцца на вяршыню ўлады, тым менш часу ў іх (і не толькі для сваіх выбаршчыкаў). Гэта адпавядае выказванню Альберта Эйнштэйна ў „Спецыяльнай тэорыі адноснасці". З яе вынікае, што чым бліжэй да Зямлі, тым павольней ідзе час. Цвёрда ступаючы па зямлі, у нас больш часу, думаем больш разумна, прымаем рашэнні больш разумна, больш увагі адводзім іншым людзям. Таксама жывем даўжэй і спакайней. Затое мала маюць часу палітыкі адарваныя ад зямлі, якія пруцца яшчэ хутчэй, чым вышэй стаяць у іерархіі ўлады. І чым больш яны гоняцца за ім, тым менш маюць яны часу. Далей ідуць непрыемныя наступствы. Замест таго, каб узважваць словы — на што ў іх няма часу — яны вырошчваюць пустыя словы, як бы ўпрыгожваючы іх ідэалагічнымі клішэ. Яны таксама старэюць хутчэй... хаця слова тут было б лепшае: яны спажываюцца, зношваюцца! Кожная ўлада, якая спрабуе кіраваць часам з імклівай мерай свайго часу, расходуецца. Што павесіцца, не патане. А час цячэ.

Міраслаў ГРЫКА

1 працяг

трэці раз зладзіла гамадскую сустрэчу «Вечная памяць».

Перад маршам у Гайнаўцы спаткаў я нашчадкаў святога мучаніка Фёдара, якія прыйшлі засведчыць аб невіноўнасці свайго бацькі і цесця Фёдара Якімюка з Падрэчан, які без прысуду быў забіты каля Пухалаў-Старых.

— Калі я сёння пачула, як спявалі велічанне ў гонар нашых святых падляшскіх мучанікаў, у лік якіх уключаны ж мой бацька Фёдар, стала мне на душы радасна. Столькі гадоў мы гаравалі і смуткавалі па бацьку, разам з мамай і сямейнікамі, а цяпер дачакаліся, што стаў ён святым мучанікам. Мой бацька і іншыя вазакі невіноўнымі былі забіты. Я і іншыя сямейнікі забітых атрадам «Бурага» вельмі ўдзячны, што прыбыло сюды так многа людзей, каб ушанаваць памяць нашых продкаў, — заявіла ў час сустрэчы «Вечная памяць» Валянціна Кярсноўская, якая жыве цяпер у Гайнаўцы і перад самым маршам чарговы раз расхвалявалася памятаючы, як у мінулых гадах удзельнікі маршаў у яе родным горадзе крычалі «Буры наш герой». — Прыязджаюць у дзень маршу ў Гайнаўку маладыя мужчыны з розных мясцовасцей Польшчы і тут праслаўляюць «Бурага», якога атрад паліў нашы вёскі і забіваў нявіноўных людзей.




У час пятага Маршу памяці выклятых жаўнераў пацвердзіліся прадчуванні гайнавян: ізноў праслаўляўся камандзір Нацыянальнага вайсковага задзіночання капітан Рамуальд Райс. Удзельнікі шэсця выгуквалі лозунг «Буры, Буры наш герой», чым выклікалі вялікае абурэнне ў жыхароў Гайнаўкі, перш за ўсё ў праваслаўных беларусаў, ад якіх звыш васьмідзесяці асоб было забітых атрадам «Бурага». Ідучыя ў маршы неслі таксама банеры з выявай «Бурага». Марш выйшаў з-пад касцёла Узвышэння Святога Крыжа, прайшоў вуліцамі 3-га Мая, Сцяпана Баторыя, айца Антонія Дзевятоўскага, побач Свята-Троіцкага сабора і закончыўся перад уваходам у Гайнаўскі дом культуры. У пачатку маршу яго ўдзельнікі неслі банер «Нацыянальнай Гайнаўкі» і банер з праваслаўным крыжам і выявамі Владзімежа Юрасава «Вяруса» і Мікалая Курачкіна «Лясногa», жаўнераў праваслаўнага веравызнання, якія мелі змагацца ў пасляваенным падполлі. Удзельнікі маршу неслі бел-чырвоныя сцягі і сімвалы ONR, а арганізатарам маршу называліся нацыянальныя асяроддзі. Удзельнікі маршу паўтаралі лозунгі «Bury, Bury, nasz bohater», «Wielka Polska chrześcijańska», «Cześć i chwała bohaterom», «Zawsze w pamięci żołnierze wyklęci», «Narodowe Zjednoczenie Wojskowe», ці «Narodowa Hajnówka». Марш ахоўваўся вялікай колькасцю паліцыянтаў, а апошняй перамяшчалася рэканструкцыйная група. Члены і прыхільнікі арганізацыі «Грамадзяне РП» паспрабавалі заблакіраваць марш на вуліцы Сцяпана Баторыя, каля рэчкі Лясная. Трымалі яны вялікі транспарант з лозунгам «Bury nie jest bohaterem». У руках трымалі невялікія шыльды з імёнамі і ініцыяламі прозвішчаў, узростам асоб забітых у 1946 годзе атрадам «Бурага» і белыя ружы, якія пасля паклалі на тратуар. Спроба «Грамадзян РП» затрымаць марш не атрымалася і пасля папярэджання сысці з трасы маршу пратэстуючыя асобы былі перанесены паліцыянтамі або перайшлі на тратуар і былі блакіраваны на ім, покі не прайшоў марш. Перад уваходам у Гайнаўскі дом культуры арганізатары распусцілі марш.

Тэкст і фота
Аляксей МАРОЗА

Настаўнікі роднай мовы

# Мне вельмі прыемна, калі я сустракаю сваіх вучняў на вуліцы, а яны вітаюцца па-беларуску.

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я заўсёды любіў урокі роднай беларускай мовы ў падставовай школе і белліцэі. На філалагічны факультэт у Менску я паступаў з цвёрдым намерам стаць выкладчыкам роднай мовы, беларускай культуры і нашай багатай гісторыі. Я хацеў ратаваць ад забыцця нашу спадчыну.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Ідэалам настаўніка роднай мовы з'яўляецца мой выкладчык і навуковы кіраўнік з Менска Мікалай Хаўстовіч.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— На працягу сваёй працы я абменьваўся вопытам і дапаможнікамі з многімі настаўнікамі беларускай мовы. Пры арганізацыі конкурсаў і правядзенні матуральных экзаменаў я супрацоўнічаў з Іалантай Грыгарук, Янам Карчэўскім і Аннай Бжазоўскай.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— На ўроках я часта карыстаюся матэрыяламі выдадзенымі згуртаваннем АБ-БА, чытаем „Ніву", удзельнічаем у мерапрыемствах арганізаваных Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Мае вучні ўдзельнічалі ў розных праектах. Асабліва спадабалася школьнікам тэма „Слядамі нашай гісторыі", дзе мы адшуквалі ў Бельску забытыя месцы звязаныя з нашай мінуўшчынай. Мяне папрасілі таксама дапамагчы пры міжнародным праекце „Эразмус", у рамках якога мы паказваем вучням іншых краін нашу багатую культуру.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Вучні найчасцей выбіраюць дэкламатарскі конкурс „Роднае слова", але гэты прадметны конкурс патрабуе цяжкай ды доўгай працы і дае вучням вялікую радасць, калі яны становяцца лаўрэатамі.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— У працэс навучання і выхавання дзяцей я ўключаю бацькоў, а нават дзядуль ды бабуль. Мы разам робім ёлку, куццю, дзень бабулі. Я арганізую сустрэчы з мясцовымі паэтамі, дзеячамі культуры, гісторыкамі і паэтамі.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— У нашай школе вучацца толькі тыя, якіх бацькі хочуць, каб іх дзеці пазнавалі беларускую мову і культуру. Я стараюся так весці ўрок, каб вучні былі ім зацікаўлены.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Трох урокаў беларускай мовы ды гадзіна гісторыі і культуры дастаткова для рэалізацыі школьнай праграмы. Пасля ўрокаў я працую з вучнямі на дадатковых занятках, рыхтуючы іх да розных конкурсаў.



Фота Ганны Кандрацюк

**Андрэй МАРОЗ** нарадзіўся ў вёсцы Новаберазова на Гайнаўшчыне. Закончыў Гайнаўскі белліцэй і паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Менску. Пасля вучыўся і працаваў навукова ў аспірантуры гэтай установы. Вярнуўся на роднае Падляшша і працуе настаўнікам у бельскай «тройцы».

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— За многія гады працы лаўрэатаў прадметнага конкурсу назбіралася шмат, але дакладнага ліку не памятаю.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Усё так хутка мяняецца, што старэйшыя падручнікі страцілі ўжо актуальнасць. На жаль, нават іх не хапае, але выдаюцца новыя цікавыя падручнікі. У сваёй працы я часта карыстаюся інтэрнэтам, а і вучні могуць (з вялікай ахвотай) на сваіх смартфонах пашукаць патрэбны матэрыял.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Я люблю працаваць з падручнікамі для малодшых класаў і мне падабаецца падручнік для былога першага класа гімназіі.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Маім улюбёным беларускім аўтарам з'яўляецца Максім Багдановіч. Шкада, што так мала пражыў!

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Цяпер я чытаю „Беларусазнаўчыя даследаванні".

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Мае вучні любяць чытаць старонкі „Нівы", асабліва „Зорку". Вельмі любяць цыкл артыкулаў „Міфы старажытных беларусаў". Старэйшыя вучні любяць самастойна шукаць выданні ў інтэрнэце.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Самым цікавым для мяне мерапрыемствам з'яўляецца археалагічны фэст у Збучы.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Некаторыя вучні самі пачынаюць размаўляць са мною на перапынку на гаворцы бабуль. Мне вельмі прыемна, калі я сустракаю сваіх вучняў на вуліцы, а яны вітаюцца па-беларуску.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Маю, але добрыя іх перакрываюць.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Абыякавыя адносіны да роднай культуры.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Веру, што такія растуць і хутка мы пра іх пачуем.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Нейкія грашовыя ўзнагароды былі, але найвялікшай падзякай з'яўляюцца вучні, якія не саромеюцца сваёй мовы і нацыянальнасці.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Гэта вучні натхняюць мяне да далейшай працы. Каб не іх радасць, аптымізм і ўдзячнасць, то праца была б цяжарам.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Я развітваўся з вучнем пасля яго вучобы ў нашай школе. Хлопец паціснуў маю руку і шчыра прызнаўся, што так моцна цешыцца з заканчэння навукі (якая давалася яму нялёгка), толькі шкадуе, што не будзе больш урокаў беларускай мовы. Затым запэўніў мяне, што ён заўсёды будзе памятаць аб сваёй беларускасці. І я яму веру!

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Герб Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг і васількі.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Будучыня маладых беларусаў залежыць ад іх школьнай адукацыі, сямейнага выхавання і адносін да роднага.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Баю, баю, будзем у раю...

10 лютага 2020 года маршалак Сейма аб'явіла тэрмін прэзідэнцкіх выбараў. Адбудуцца яны 10 траўня. Кожная палітычная групоўка дае рэкамендацыю свайму кандыдату. Каб стаць кандыдатам трэба сабраць сто тысяч подпісаў падтрымкі. Затым пачалася саперніцкая гонка за галасы суверэна. Дагэтуль з абавязкам справіўся лідар ПСЛ (Кааліцыя польска) Уладыслаў Касіняк-Камыш, які сабраў 250 тысяч подпісаў. На маю думку выбары будуць праходзіць у двух турах. З майго пункту гледжання ў другім туры апынуцца ўпраўляючы прэзідэнт Анджэй Дуда з рэкамендацыі Права і справядлівасці ды віцэ-маршалак Сейма Малгажата Кідава-Блоньска з рэкамендацыі Грамадзянскай платформы. Дагэтуль, як паказваюць апытанні, яны карыстаюцца найбольшай падтрымкай. Гаворка ідзе таксама аб лідары Польскай кааліцыі. Хоць у сапраўднасці нязведаныя наканаванні лёсу, як гавораць у народзе.

Чым зараз будуць маніць кандыдаты на прэзідэнта. Абяцанкамі, кашай нябеснай? Найбольшы шанц у гэтай справе мае ПіС, паколькі распараджаецца дзяржаўным бюджэтам, грашыма падаткаплацельшчыкаў. Дагэтуль упраўляючыя раскідаліся грашыма на права і на лева, як гэта, кажуць, пры камуне бывала: „каму на, каму не". Прыкладам таго выплата 500+ на першае дзіця. Далі ўсім без ніякіх крытэрый, бедным і багатым. Падобна справа маецца з трынаццатай пенсіяй для пенсіянераў. А тым найбольш патрабуючым, дзеткам з абмежаваннямі і старэчам нядольным да самастойнага існавання ўстанавілі падаходны крытэрый — 1600 зл. Для прэзідэнта Анджэя Дуды цяжка будзе зараз зманіць народ чарговымі абяцанкамі, таму ягоныя штабісты на чале з Брудзінскім і Шыдла прышпільваюць прэзідэнту заслугі „добрай змены" пяцігадовай даўнасці. Але народ памятае 2015 год і невыкананыя абяцанні прэзідэнта Дуды з папярэдніх выбараў. Тычыцца гэта сацыяльнай сферы: сцяганоснага 500+, дарэмных лякарстваў для сеніёраў, трынаццатай пенсіі для пенсіянераў ці дадатковай выплаты для пенсіянераў 500+. Не прыгадваю іншых абяцанак. Пакарыстаюся прыкладам са свайго панадворка.

У мінулым годзе, калі ўступаў у сілу закон аб дадатковай выплаце 500+ для сеніёраў з абмежаваннямі, нядатных да самастойнага існавання, я падаў заяву ў ЗУС. Адкінулі па прычыне крытэрыяў. Мой месячны прыбытак перавышае 1600 зл. брута на 112 зл. Але чынушы не ўзялі пад увагу прыбытку за догляд 222 зл., які трэба было вылучыць. Прашляпалі. Так засталося. І за гэта маю дзякаваць прэзідэнту ці для ПіСаўскай добрай змены? А як маецца справа з дарэмнымі лякарствамі для сеніёраў, якім больш за 75 гадоў? У 2015 годзе на гэту мэту было прызначаных 860 мільёнаў злотых. Год пазней сума паменшылася на 95 мільёнаў. У 2017 годзе рэфудавана было ўжо менш на 487 мільёнаў, а ў 2018 годзе канчаткова прызначана ўсяго 500 мільёнаў. Калісьці матуля казала: „Хвальбы поўны тарбы, а ў тарбах пуста". Бо гэта праўда. Каманда прэм'ер-міністра Матэвуша Маравецкага пачала ў гэтым годзе іншую песеньку: „Дазвольце завяршыць нам пачатыя рэформы. Будзем жыць у дастатку, як заходнія еўрапейцы". А я магу сказаць такое: „Баю, баю, будзем у раю...". Не для нас такія штучкі.

**Уладзімір СІДАРУК**

---

Białystok, 19 lutego 2020 r.

**Szanowny Pan**
**Jerzy Sirak**
**Burmistrz Hajnówki**

**Szanowny Panie Burmistrzu!**

Jako przewodniczący Związku Białoruskiego w Rzeczypospolitej Polskiej zwracam się do Pana jako burmistrza Hajnówki z prośbą o wydanie zakazu zgromadzenia publicznego, zgłoszonego na dzień 23 lutego 2020 r. w Hajnówce. Przeprowadzany od kilku lat marsz oburza opinię publiczną, wywołując negatywne emocje i poruszenie zwłaszcza wśród świadków oraz rodzin pomordowanych w 1946 roku przez oddział Romualda Rajsa „Burego" mieszkańców regionu. Nic nie wskazuje na to, by postać tego dowódcy nie była podczas zgłoszonego marszu gloryfikowana, jak to miało miejsce w ubiegłych latach. To wydarzenie przynosi mniejszości białoruskiej w Polsce ogromną krzywdę, na którą Pan jako gospodarz miasta pozwalać nie powinien.

Zgodnie z wnioskiem organizatora tegoroczny marsz wzorem ubiegłego roku przejdzie ulicą, przy której znajduje się prawosławny sobór Trójcy Świętej. Przed rokiem podnosił Pan ten argument, wydając organizatorom zakaz na przeprowadzenie zgromadzenia publicznego. Rok temu Sąd Okręgowy w Bielsku Podlaskim uchylił postanowienie prokuratury, która umorzyła dochodzenie w sprawie „propagowania faszystowskiego ustroju podczas Marszu Żołnierzy Wyklętych w lutym 2018 roku w Hajnówce". Sędzia Grzegorz Front przyznał wówczas rację Rzecznikowi Praw Obywatelskich, który, składając zażalenie od decyzji prokuratury, wskazywał, w jaki sposób hajnowski marsz propagował faszyzm oraz nienawiść do białoruskiej grupy narodowej. W swoim postanowieniu sędzia przywoływał art. 256 KK a, powołując się na wyniki śledztwa pionu prokuratorskiego IPN z 2005 roku, wskazywał, iż zbrodnia dokonana przez oddział „Burego" posiadała motyw narodowościowy i wyznaniowy. Sędzia Front uznał, iż ustalenie trasy przemarszu obok prawosławnej świątyni miało charakter prowokacyjny i świadczy o przestępstwie nawoływania do nienawiści na tle narodowościowym lub wyznaniowym.

Dodatkowo powinien Pan wziąć pod uwagę fakt oficjalnej kanonizacji zamordowanych przez oddział „Burego" grupy furmanów, której Sobór Biskupów Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego dokonał 29 października 2019 roku. Gloryfikowanie sprawcy męczeństwa prawosławnych świętych wyczerpuje znamiona przestępstwa z art. 196 KK.

**Z poważaniem**
**Przewodniczący Związku Białoruskiego w RP — Eugeniusz Wappa**

---

Hajnówka, dnia 21 lutego 2020 r.

**Pan Eugeniusz Wappa**
**Przewodniczący**
**Związku Białoruskiego w RP**

W odpowiedzi na Pana pismo z dnia 19 lutego 2020 roku informuję, iż zgodnie z ustawą z dnia 24 lipca 2015 r. Prawo o zgromadzeniach (Dz. U. z 2019 r. poz. 631, poz. 828, poz. 1781) Burmistrz Miasta Hajnówka nie znalazł wystarczających przesłanek prawnych by na podstawie art 14 ustawy Prawo o zgromadzeniach wydać decyzję o zakazie zgromadzenia organizowanego w dniu 23 lutego 2020 r., w godz. od 13.00 do godz. 15.00. z miejscem rozpoczęcia zgromadzenia ul. 3 Maja przy Kościele Podwyższenia Krzyża Św. z planowaną trasą przejścia i z miejscem zakończenia zgromadzenia ul. 3 Maja — ul. Stefana Batorego — ul. Księdza Antoniego Dziewiatowskiego — ul. Tamary Sołoniewicz parking przy Hajnowskim Domu Kultury (zakończenie), którego celem jest upamiętnienie żołnierzy podziemia antykomunistycznego w związku ze Świętem 1 marca (Narodowy Dzień Pamięci Żołnierzy Wyklętych).

Decyzje o zakazie zgromadzenia w takich sprawach podejmowane były w latach ubiegłych, niestety były one uchylane postanowieniem Sądu. W tym roku Burmistrz Miasta Hajnówka podjął decyzję, iż formą dezaprobaty w/w zgromadzenia będzie przyłączenie się do projektowanego stanowiska Rady Miasta Hajnówka, które mamy nadzieję zostanie podjęte na sesji nadzwyczajnej w dniu 21 lutego 2020 roku.

**ZASTĘPCA BURMISTRZA**
**Ireneusz Roman Kiendyś**

---

Załącznik do uchwały Nr XV/111/20
Rady Miasta Hajnówka z dnia 21 lutego 2020 r.

## Stanowisko Rady Miasta Hajnówka o zgromadzeniu publicznym dotyczącym upamiętnienia żołnierzy podziemia antykomunistycznego z okazji zbliżającego się Narodowego Dnia Pamięci Żołnierzy Wyklętych

Przełom lutego i marca od kilku już lat napawa mieszkańców Hajnówki i okolic niepokojem, gdyż w tym właśnie czasie prawicowi ekstremiści organizują marsz, podczas którego gloryfikują kpt. Romualda Rajsa pseudonim „Bury". Próbują stworzyć mit wyzwoliciela i żołnierza walczącego z komunistycznym reżimem. Te slogany rozbijają się jednak w konfrontacji z czynami, jakich dopuścił się ich „bohater" na ludności cywilnej w okolicznych wsiach — Zaleszany, Puchały Stare, Zanie, Szpaki, Wólka Wygonowska.

Na przełomie stycznia i lutego 2020 roku minęło siedemdziesiąt cztery lata od tragicznych wydarzeń, w których ofiarę życia złożyło 79 mieszkańców naszego regionu. Te wydarzenia to zbiorowy mord na ludności cywilnej. Tragizmu przydaje fakt, iż zbrodnia miała miejsce ponad pół roku po zakończeniu najokrutniejszej z wojen, a jej sprawcami byli żołnierze oddziału Pogotowia Akcji Specjalnej Narodowego Zjednoczenia Wojskowego dowodzeni przez kpt. Romualda Rajsa pseudonim „Bury". Według Instytutu Pamięci Narodowej, który przeprowadził śledztwo w tej sprawie, akcji oddziału „Burego" „nie można utożsamiać z walką o niepodległy byt państwa, gdyż nosi znamiona ludobójstwa". Na szczęście żyją jeszcze ostatni świadkowie tych wydarzeń, którzy opisują widok płonących wsi, rozdzierający krzyk i rozpacz mordowanych ludzi, lament matek patrzących na śmierć swoich dzieci, bezsilność mężczyzn widzących śmierć bliskich z rąk oprawców. Przez lata bali się mówić o przeżytej tragedii, chociaż jej piętno czują każdego dnia, aż do dzisiaj.

W przeciwieństwie do rodzin oprawców nie otrzymali zadośćuczynienia za zabójstwo swoich bliskich.

W obliczu odradzającej się chęci gloryfikacji zbrodniarzy ostatni świadkowie tragicznych wydarzeń przestrzegają przed rodzącą się nienawiścią i jej skutkami. Rodziny ofiar żądają zaprzestania hołubienia sprawców tej tragedii oraz oddania czci należnej ich ofiarom. Nie odmawiamy hołdu żołnierzom Armii Krajowej i części Żołnierzy Wyklętych walczących o niepodległą Polskę. Nie zasługują jednak na hołd ci, którzy wystąpili zbrojnie przeciwko ludności cywilnej.

Jako Radni Miasta Hajnówka i przedstawiciele lokalnej społeczności nie pozwolimy zakłamywać historii, oddając hołd ofiarom mordu niewinnej ludności cywilnej, protestujemy przeciw gloryfikowaniu i upamiętnianiu „Burego" oraz jego żołnierzy poprzez organizowanie zgromadzeń publicznych. Będziemy bronić pamięci o tragicznych wydarzeniach, których doświadczyła ludność prawosławna.

Hajnówka była, jest i będzie miastem tolerancji i wielokulturowości. To tutaj żyjemy, pracujemy i spotykamy się ze sobą na co dzień — wyznawcy różnych wiar i przedstawiciele różnych narodowości zjednoczeni pod polską flagą i godłem. Nie pozwolimy tego zaprzepaścić i zamierzamy walczyć o dobre imię naszego miasta.

„Bury" nie jest naszym bohaterem i nigdy nim nie będzie! Stawianie go za wzór i głoszenie haseł „Bury — mój bohater" jest prowokacją, której nie można akceptować. Naszymi bohaterami pozostaną niewinnie zamordowani mieszkańcy, którym tym stanowiskiem oddajemy należny Im hołd. Żołnierze podziemia antykomunistycznego nie mogą być postrzegani tylko jako bohaterowie bez skazy. „Bury" i jego oddział dopuścili się brutalnych pacyfikacji ludności chłopskiej w okolicach Hajnówki i Bielska Podlaskiego.

Z całą stanowczością potępiamy wydarzenia sprzed siedemdziesięciu czterech lat i wyrażamy swoją dezaprobatę dla organizowania marszu w Hajnówce.

Apelujemy do parlamentarzystów o podjęcie inicjatywy ustawodawczej zakazującej organizacji zgromadzeń publicznych promujących nienawiść i zagrażających dobrym relacjom obywateli Rzeczypospolitej Polskiej różnych narodowości i wyznań.

# Падляшскія ліцэі ваююць за вучняў

**Падляшскія школы змагаюцца з дэмаграфічным крызісам. Асабліва цяжка пераканаць маладых да вучобы ў ліцэях невялікіх гарадкоў, як Дуброва-Беластоцкая ці Міхалова. Дырэктары ведаюць, што зараз школа мае даваць не толькі грунтоўную адукацыю, але і ставіць перад вучнямі канкрэтныя выклікі і адкрываць новыя магчымасці. Часам яны таксама звяртаюцца па дапамогу да спецыялістаў, напрыклад, лідараў музыкі дыска-пола.**




**“Першая школа дыска-пола” будзе на Падляшшы.**

Гміна Міхалова карыстаецца папулярнасцю з-за музыкі дыска-пола. Менавіта гэта мае прыцягнуць моладзь да мясцовага ліцэя. З пачаткам новага навучальнага года з'явіцца сцэнічны профіль, які рэкламуецца як „першая школа дыскапола”. Улады Міхалова, якім падначалены Школьны комплекс, у структуры якога працуе ліцэй, у чацвер (20.02) на прэс-канферэнцыі ў школе паведамілі пра дэталі сваёй ідэі. У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі павятовай і мясцовай улады, розных устаноў, а таксама вучні гэтай школы.

— Якую школу стварыць на Падляшшы? — пытаў Марк Назарка.— Калі металургія, то ў Сілезіі, калі марскі профіль — Гданьск, Гдыня, Шчэцін. А Падляшша? Чым славімся ва ўсёй краіне? Што прывабнае для моладзі і адначасова з'яўляецца добрай канцэпцыяй на жыццё? Адказ: першая школа дыска-пола ў Польшчы!

На пытанне пра ідэю школы дыска-пола ў Міхалове міністр адукацыі Дарыюш Пянткоўскі сказаў, што бургамістр Міхалова прыняў рашэнне аб „канкрэтнай акцыі”. „Магчыма, у апошні час папулярнасць дыска-пола з'яўляецца нейкім натхненнем для гэтых дзеянняў, але трэба выразна сказаць, што гэтая школа таксама будзе агульнаадукацыйнай школай”, — сказаў міністр. Ён растлумачыў, што школа абавязана выконваць агульнаадукацыйную асноўную праграму, а дыскапола будзе „інавацыяй”.

— Гэта школа для моладзі, каб даць ёй шанц у жыцці, каб яна праз свой запал хацела развівацца і ў тых агульных прадметах, — сказаў Марк Назарка. — І да таго, каб яны рабілі штосьці добрае. І гэты наш цэнтр мае розныя забавы, імпрэзы. Галоўнае, каб ён быў прафесіянальны і ўсё было для людзей.

У класе з такім профілем у рамках асноўнай вучэбнай праграмы будуць адбывацца заняткі па музыцы, гісторыі музыкі, а таксама вакальныя, інструментальныя і танцавальныя ўрокі. Акрамя таго ў рамках факультатыўных заняткаў будуць праходзіць практычныя ўрокі і майстар-класы, якія будуць весці прадстаўнікі музычных кампаній і самыя музыкі. Адным з выкладчыкаў мае быць адна з зорак дыска-пола Марцін Мілер з групы „Boys „.

— Буду старацца адказаць на кожнае пытанне моладзі, — гарантаваў Марцін Мілер. — Ці ёсць нейкі рэцэпт на хіт? Як паводзіць сябе на сцэне? Гэтага ўсяго магу навучыць. Наколькі моладзь будзе мяне слухаць, тады я буду з імі.

Ліцэй у Міхалове паўстаў у 1947 годзе. Зараз тут вучацца 64 асобы. У кніжцы „Jest takie liceum...”, выдадзенай у 2017 годзе і прымеркаванай да 70-годдзя існавання школы, можна прачытаць успаміны выдатнай выпускніцы, прафесар Лены Глагоўскай: „Ліцэй у Міхалове быў з'явай, якой я тады не магла зразумець. Толькі пасля гадоў пра гісторыю яго стварэння распавёў мне Мікалай Гайдук, нараджэнец Кабылянкі. Вакол цёмная пасляваенная рэчаіснасць, а тут раптам аддольная ініцыятыва. Я тады зразумела, што толькі ў гэтым горадзе мог паўстаць ліцэй. Так ці інакш, мой бацька часта паўтараў, што ў інтэлектуальным і культурным плане Міхалова заўсёды перавышала Гарадок: „Там зусім іншы народ”, — казаў ён, успамінаючы старыя часы. Сярэдняя школа займала асаблівае месца сярод устаноў у Міхалове. Яна дала атэстат сталасці і старт у дарослае жыццё. Я шмат разоў здзіўляла людзей, кажучы, што завяршыла ліцэй у правінцыйным горадзе. Шмат разоў сярод маіх равеснікаў на факультэце журналістыкі і палітычных навук Варшаўскага універсітэта ў мяне былі падставы ганарыцца гэтым ліцэем”. Напэўна гэты этап ліцэя ў Міхалове ўжо даўно закрыты. Пабачым, што прынясе новае.

**Ліцэй у Дуброве-Беластоцкай прыме яшчэ больш вучняў з Беларусі**

Штораз больш беларусаў вучыцца ў Дуброве-Беластоцкай. Ліцэй імя генерала Нікадэма Суліка прываблівае моладзь з Беларусі. Дуброўскі ліцэй прапануе беларусам дармовую вучобу, а таксама дадатковую навуку польскай мове. Пры чым вучні з Беларусі навучаюцца ў Дуброўскім ліцэі бясплатна. Аплачваюць толькі месца ў інтэрнаце, які гарантуе таксама харчаванне.

— Мы ўжо доўгі час супрацоўнічаем з Беларуссю, — кажа дырэктар асветнай установы Яраслаў Буднік. — На пачатку гэта было проста супрацоўніцтва ў рамках нейкіх культурных ці спартыўных мерапрыемстваў, але пазней мы ўжо пачалі думаць ці было б зацікаўленне з боку беларусаў, каб вучыцца тут, у Дуброве. Мы бачылі, што іншыя школы, якія існуюць у Польшчы, напрыклад у Варшаве, маюць многа ахвотных. У нас яшчэ інакш выглядае гэты эксперымент, бо ў нас моладзь з Беларусі вучыцца ў тых самых класах, што польская моладзь. Мы не стварылі адмысловага класа для беларусаў, так як гэта зрабілі ў Варшаве.

Зараз у ліцэі імя генерала Нікадэма Суліка навучаецца 268 вучняў, у тым ліку каля 30 чалавек з Заходняй Беларусі, аднак зацікаўленне вучобай з году ў год павышаецца.

— Мы думаем павялічыць колькасць месцаў у інтэрнаце, бо зацікаўленасць з беларускага боку да ліцэя павялічваецца, — кажа Яраслаў Буднік. — Былі мы ў мінулым годзе на сустрэчах з моладдзю ў Беларусі. Адбылося ўжо тры такія сустрэчы, чацвёртая запланавана. І магу сказаць, што ёсць вялікая зацікаўленасць.

Вучні з Беларусі вельмі ахвотна прымаюць удзел у школьных мерапрыемствах ці кружках зацікаўленняў. Маладыя беларусы таксама з'яўляюцца вельмі добрымі вучнямі, напрыклад Маргарыта Савашэвіч у мінулым годзе мела самую высокую сярэднюю ацэнак.

— Мая мама з'яўляецца полькай, — сказала Маргарыта. — Мне вельмі падабаецца, што я магу развіваць сваё веданне польскай мовы, магу жыць на тэрыторыі Еўропы. Я бачу вялікія дэмакратычныя ўплывы ў Польшчы. Мне вельмі падабаецца школа, яна для мяне з'яўляецца імпульсам і мне хочацца вучыцца, хочацца дасягнуць нейкіх мэт. Я думаю, што гэта таксама дзякуючы нашым цудоўным настаўнікам і ўсім людзям, якія тут працуюць. Я люблю сваіх равеснікаў, з якімі я вучуся і стараюся падтрымліваць з імі добры кантакт, таму што яны выказваюць крыху іншыя погляды на жыццё чым я і мне падабаецца дзяліцца тым, што я думаю і падабаецца таксама прымаць іхнюю кропку погляду.

Таксама сёлета ўпершыню вучаніца з Беларусі, менавіта Маргарыта Савашэвіч, прадстаўляла Дуброўскі ліцэй на алімпіядзе па беларускай мове.

— Мне вельмі прыемна, што ёсць такія маладыя людзі, якія цікавяцца беларускай літаратурай, культурай, мовай у Польшчы, — кажа Маргарыта, —якія не забываюцца пра свае карані. Гэта дае вялікую надзею для ўсяго беларускага народа. Таксама мне вельмі падабаецца тое, што я магу выкарыстоўваць свае здольнасці. Магу пабыць з разумнымі людзьмі, праверыць свае веды.

Тэкст і фота **Уршулі ШЎБЗДЫ**




Дырэктар Дуброўскага ліцэя Яраслаў Буднік з вучаніцамі з Беларусі. Злева ад дырэктара Маргарыта Савашэвіч



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі


# Дзень Роднай Мовы

24.02.2020

УВАГА КОНКУРС!

№ 09-20

Не разыначка я
— мяне ж усе смакуюць;
не дзяўчыначка я
— мяне ж усе цалуюць.

Л....

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 9 сакавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 5-20: зоркі**. Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Каміля Цітко, Дам'ян Горчак** з Бабік, **Мая Тапалянская** з Нарвы. Віншуем!

*Анатоль Грачанікаў*

## Мова...

Родная мова
У марах, у песнях, у снах.
Мае ў ёй кожнае слова
Свой колер, і смак, і пах.
Зліваюцца гукі ў словы
І ў рэчышча роднай мовы,
Як рэкі ў мора, цякуць,
І думкі мае плывуць
На хвалях і дзён, і начэй
Да сэрцаў людскіх і вачэй.

Размалюйце!

*Леанід Дайнека*

**Беларусь, ты не забыта...**

Беларусь, ты не забыта.
У душы, як Божы знак:
Хата... Канюшына... Жыта...
Бульба... Бусел... Шпак...
Мроя... Хлопец закаханы...
Цемра... Шлях дамоў...
Беларусь, ты збудавана
З беларускіх слоў!


Малюнак: А.А. Шачакова

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Сонца** — у міфічных уяўленнях беларусаў з'яўлялася божым вогнішчам, якое абагравала неба і ўвасабляла агонь. Гэта любімае свяціла Бога. Паводле легенды, яно аднойчы адмовілася свяціць для ліхіх людзей. За гэта Усявышні яго пакараў і дазволіў свяціць толькі ўдзень.

Нашы продкі верылі, што дзесьці ў краі зямлі знаходзіцца вырай. У гэтым закутку заўсёды свеціць сонца, крыніца ўсякага дабра і ласкі. Але прынцыпова сонца коціцца залатым шарам, вандруе па небе. Яно кожны дзень перасякае межы выраю, уваходзіць на неба і коціцца на захад, за вялікае мора, каб там адпачыць у сваіх палацах.

У Мазырскім раёне Гомельскай вобласці існавала паняцце пра «колерную гульню сонца» на Купалле. Каб усё было на месцы, у пачатку дня сонца павінна мець вогненны колер (Іванаўскае), потым зялёны (лячэбнае) і толькі потым жоўты (пшанічнае).

На Падляшшы вераць у ігру сонца на Вялікдзень, Юр'я, Купалле. Сонца тады мяняе не толькі колеры, але і выходзіць з-за сваіх абручоў, пульсуе, «худзее» і «таўсцее». Такая з'ява, — як вераць на Падляшшы, — прадказвае радыкальныя змены ў жыцці людзей, якія пабачылі цуд.

Сонца — любімы сімвал падляшскай архітэктуры. У мінулым шмат гаспадароў змяшчала салярны знак на шчыце хаты, або ўкладала ліштвы ў форме сонца. Гэта мела прынесці дастатак і добры настрой у сям'і. Таксама з часоў старажытнасці на вырабах з гліны, бяросты ці косці наносілі сімвалы сонца ў выглядзе кружкоў з кропкай у цэнтры. Побытавыя рэчы з дрэва (напрыклад, прасніцы) аздаблялі рознымі шматпраменнымі кругамі-разеткамі, якія таксама азначалі сонца. Сонца ад старажытных вякоў спатыкаем на вышыўках і тканінах, ручніках і абрусах. Яно, як не прыгожа, натхняе сучасных музыкаў, напрыклад «Н.Р.М.» — адзін з гітоў гэтага культавага рок-гурта завецца «Сонца нам дапаможа».

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей») **(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 09-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 5-2020:**

Шпагат, які, кусака, Каларада, капялюш, папяроса, палын, рэ, рок, туша, мэта. Шчыт, капот, капа, капялюш, акуляры, салон, каша, рэ, клад, рот, аптэка.

Узнагароды, маркеры з металічным адценнем, выйгралі **Матэвуш Валентыновіч, Антоні Дабрэнка** з Бабік, **Наталля Кіндзюк, Матэвуш Адамовіч** з Нараўкі, **Раксана Маёр** з Арэшкава, **Аліўка Порац** з Нарвы, **Ганна Куколка, Алівія Анапюк** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Dudek | | | | | Wokal | Kołek | Pilaw | |
| | | | Ach! / Dziwo | Kuzyn / Wiera | | | | | |
| | Oddech | Dwa / Dziadek | | | | Aleksander (zdrobnienie) | | | |
| | Czasownik / Dzik | | | | | | | | |
| Dziura / Panna | | | | | | | | Leo | |
| | | | | | Waga | | | | |
| | | | | Jal | | | | | |
| | | Lida / Jak | Praca | | | | | | |



**Кастусь ЦЕЛУШЭЦКІ**
Новае Ляўкова




## Прырода

Вялікае слова прырода,
Усё гэта дадзена ёсць ад Бога.
Сонца, зямля, хмары, дождж,
Вясна, лета, восень і зіма.
Добра людзям жывецца,
Калі ў кожную пару ўсё стаецца.
Вясною — усё ажывае.
Патрэбна сонца, дождж і раса.
Летам — усё даспявае.
А ў восень — па-рознаму бывае:
Каротшы дзень, больш дажджу,
Людзі збіраюць усё з поля.
Зіма тожа людзям патрэбна,
Людзі больш у хатах сядзяць,
Адпачываюць.
На вясну да работы сілы набіраюць.

## Белавежская пушча

Люблю па пушчы я хадзіць,
Сузіраючы вялікія дубы.
Гэта помнікі прыроды.
Вачэй ад іх адарваць не магу.
Перажылі яны не адну вайну.
Яны пад аховаю жывуць.
А найгорш сэрца баліць,
Калі сухі яліннік стаіць.
Стаіць і памірае,
Падае на зямлю і прападае.

## Добрыя гаспадары

Сорак лет таму назад
Мая вёска расцвітала.
Добрыя гаспадары
Будавалі хаты, клуні і хлявы,
Абраблялі лонкі і палі.
Трымалі многа авец і кароў,
Прыбывала ў вёсцы трактароў,
А да іх касілак і плугоў.
Машынамі хутка ўсё абраблялі.
У вольны час адпачывалі.
Найгорш, што старасць прыбліжылась.
А калі ўжо з сіл ападалі,
Найлепшыя мае гаспадары ўміралі.

## Заяц і Вожык

Заяц пад ляшчынай спаў.
Спелы арэшак на яго ўпаў.
Зайчык сарваўся і ўперад пагнаўся,
Хоць ніхто яго не гнаў.
Бачыць: вожык перад ім сядзіць.
— Бачыў я, як ты хутка пёр.
Можа «гаў» цябе папёр?
— А я ад нікога не ўцякаў!
Хуценька ў клубок звіваюсь.
А гострыя мае іголкі
Ад кожнага звера абараняюць.

**Юліта Грыка**
Міхалова

## Міхалова

Гэта мая мясцовасць — прыгожая,
як маці радасная з усмешкай,
тут людзі такія добрыя,
заўсёды карысныя і прыхільныя.
Тут зелень навокал нас,
палеткі, вада і лес,
неба, хмары
і сонца ўгары,
і дрэвы ў лісці залацістым,
бо тут зямля вячыстая.

## Восень

Ідзе верасень,
восень нам нясе.
На дрэвах пажоўклыя лісты,
сонца ўжо слабое на світанку,
больш халодныя ночы,
у кошыках свежанькая агародніна і садавіна,
у парку бронзавыя каштаны.
Чалавек цёпла адзеты.
Птахі ў вырай выбіраюцца,
голасам сумным развітваюцца.

## Айчына

Айчына,
гэта кожнае месца,
дрэва, што ў зямлі расце,
рэчка, што круціцца і плыве,
луг зялёны,
у кветкі прыбраны.
Айчына,
гэта поле, дзе расце збожжа
на хлеб штодзённы,
дарога, якая вядзе нас
далёка ў лес.
Айчына
гэта наша мова,
гэта наша праца,
гэта наша вучоба ў школе.

**Сільвія ГРЫКА**
Міхалова

## Падляшша

Прыгожая краіна,
усюды зелена,
навокал цягнецца лес,
тут азёры і чыстыя рэкі
гавораць пра нас
ад вякоў.
Стаяць звяры сярод палёў
і лугоў зялёных,
тут на Падляшшы
якраз народжаныя.
І кветак тысячы, цудоўна пахучых,
рэдка спатыканых,
багацце рэгіёну
небывалае.
Гэта месца, дзе кожны
чыстым паветрам дыхае.

## Лес

Лес гэта наш сябар,
у ім прыгод многа,
тут растуць дрэвы і кусты,
тут лятаюць розныя птахі,
тут дзяцел высока стукае,
у кары караедаў шукае,
цудоўна рэха нясе
галасы звяроў па цэлым лесе,
пад кожным дрэвам
журавіны і чарніцы даспяваюць,
віюцца вужакі, цягнуцца слімакі,
у моху пабачыць можна вусякі,
растуць тут і грыбы
лісічкі, рыжыкі і баравікі.

## Падасінавік

На белай ножцы,
у бронзавай шапцы,
у гаю
расце сабе
падасінавік.
Адзін або ў групе,
у моху, або пад кустамі...
Каб камплект грыбоў быў удалы,
у кошык яго ўкладаем.
Малыя, чорныя кропкі ён мае на назе,
ён часта ў маёй кухні рэй вядзе.



# Адышоў у апошняе падарожжа

**Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ** нарадзіўся 8 лістапада 1926 г. у вёсцы Чаромха на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. У 1939 годзе скончыў шэсць класаў польскай пачатковай школы ў Чаромсе-Станцыі і пасля да чэрвеня 1941 года вучыўся ў Бельску-Падляшскім у сярэдняй школе савецкага тыпу. У час нямецкай акупацыі ў сакавіку 1943 года быў вывезены на прымусовую працу ва Усходнюю Прусію пад горад Гайльсберг. Пасля прыходу туды Чырвонай Арміі ў лютым 1945 года быў уключаны ў яе рады і накіраваны на фронт. Пад канец лютага быў цяжка паранены ў левы бок і асколкам у брыво левага вока і перавезены ў вайсковы шпіталь у Зэебургу. Па дэмабілізацыі ў студзені 1946 года вярнуўся з Бабруйска дамоў і паступіў у чацвёрты клас Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшскім, які закончыў у чэрвені 1946 года. У сувязі з тым, што польскія ўлады ў жніўні 1946 года ліквідавалі Беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім, здаў іспыты ў польскі ліцэй імя Тадэвуша Касцюшкі ў Бельску-Падляшскім, які скончыў у чэрвені 1948 года і быў накіраваны Міністэрствам асветы ў Варшаве ў Ленінградскі электратэхнічны інстытут, які закончыў у снежні 1953 года, атрымаўшы ў Польшчы дыплом магістра інжынера электрыка-аўтаматыка. З сакавіка 1954 года пачаў працаваць у праектным бюро ў Варшаве, дзе праектаваў многія цеплавыя электрастанцыі і ў Польшчы, і за мяжою. Быў паўгода на аўтарскім наглядзе ў Тузлі ў Югаславіі і амаль тры гады ў Бакара ў Індыі. У вольны ад працы ў бюро час з 1975 года працаваў гідам замежных польскіх экскурсій у польскім турыстычным бюро „Орбіс" і іншых.

Беларускія, польскія і рускія вершы Дзмітры Шатыловіч пачаў пісаць у 1940 годзе, а друкавацца стаў пад канец 1957 года на старонках штотыднёвіка „Ніва", затым у літаратурных альманахах, „Беларускіх календарах". Быў сябрам Саюза польскіх літаратараў і ганаровым — Саюза беларускіх пісьменнікаў. Узнагароджаны Крыжам Кавалерскім Ордэна Адраджэння Польшчы, Сярэбраным крыжам заслугі і іншымі медалямі.

Дзмітры Шатыловіч — аўтар пару дзясяткаў паэтычных зборнікаў, між іншым, „Эцюды падарожжа", „Маё Падляшша", „Хвалі часу", „Вясёлка над імглою", „Струмені лёсу", „Асеннія промні", „Гронкі надзеі", „Ліхтар уражанняў" і ў перакладзе на польскую мову „Rezonanse pamięci" ды кніг успамінаў.

Памёр 21 лютага 2020 года ў Варшаве.

# Шатыловіч — жыццё ў будаванні і дарозе ў вершах

**Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ:** Што я беларус, даведаўся я ад свайго бацькі, які навучыў мяне, калі я меў пяць гадоў, чытаць кірыліцу. Мой бацька перад Першай сусветнай вайной працаваў на чыгунцы. Першапачаткова быў тэлеграфістам, а пасля начальнікам чыгуначнай станцыі ў Рыгораўцах. Падчас Першай сусветнай вайны быў вывезены аж за Пецярбург і быў кіраўніком станцыі паміж Пецярбургам і Архангельскам. Усе жыхары вёскі Чаромхі ведалі, што яны праваслаўныя беларусы, хоць чыстай беларускай мовы не ведалі. У 1939 годзе я закончыў шэсць класаў польскай школы. Пачалася Другая сусветная вайна. Далучылі нас да СССР. Два месяцы я вучыўся ў чыгуначным тэхнікуме ў Брэсце, ды цяжка было даязджаць у Брэст і пад канец лістапада прынялі мяне ў шосты клас Беларускай сярэдняй школы ў Бельску-Падляшскім і там пачаў вучыцца беларускай мове. У 1940 і 1941 годзе я з вучаніцай Бараноўскай, якая прыехала з Беларусі і ведала вельмі добра беларускую мову і пры дапамозе настаўніцы беларускай мовы пісалі часта вершы ў школьную насценгазету. Яшчэ меў я пяць месяцаў урокі беларускай мовы ў 1946 годзе ў Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшскім, калі вярнуўся з Бабруйска з Чырвонай Арміі.

Я атрымаў наказ працы ў праектным бюро ў Варшаве ад 1 сакавіка 1954 года. Калі я працаваў у Варшаве, у 1956 годзе купіў неспадзявана там **беларускую газету „Ніву"** і даведаўся, што ў Беластоку ў лютым 1956 годзе ўзнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства і пачаўся выдавацца беларускі тыднеўік „Ніва". Я выслаў у рэдакцыю „Нівы" свой першы верш „Падляшша". Яго надрукавалі і пачалі друкаваць мае іншыя вершы. Рэдакцыя „Нівы" запрашала мяне на семінары ў Беласток, куды я ездзіў з Варшавы і пазнаў там многіх рэдактараў і карэспандэнтаў, між іншым, галоўнага рэдактара „Нівы" Георгія Валкавыцкага і іншых, такіх як Сакрат Яновіч, Яша Бурш. Сустрэў там Віктара Шведа, з якім вучыўся ў 1946 годзе ў 4-м класе Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшкім і даведаўся, што жывем мы ў Варшаве ў адным будынку ля вуліцы Лавіцкай. І пра тое, што ў Варшаве па вул. Сенатарскай паўстае **аддзел БГКТ**. Там я пазнаёміўся з Пятром Ластаўкам, які кіраваў прамыслова-гаспадарчым праўленнем „Бэтэска". Таксама з Юрыем Туронкам, Аляксандрам Баршчэўскім і многімі іншымі. Пры аддзеле быў дыскусійны клуб і гуртох Беларускага літаратурнага аб'яднання, да якога я належаў. Праводзіліся аўтарскія вечары, на якіх аўтары чыталі свае творы. Прыходзілася і мне часам чытаць свае вершы. На свята пад ёлкай мой сын і мая дачка дэкламавалі беларускія вершы. У Беластоку ў рэдакцыі „Нівы" **28 чэрвеня 1958 года** я браў удзел у Заснавальніцкім з'ездзе Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Калі б усё гэта расказаць, заняло б цэлы нумар «Нівы»! Першапачаткова я не меў многа часу, каб прысвяціць сябе творчай працы, бо меў многа працы ў „Энергапраекце" пры **праектаванні аўтаматыкі** ў электрастанцыях і цеплаэлектрастанцыях, такіх як Конін, Понтнаў, Турошаў, Астралэнка, Казеніцэ, Белхатаў, у цеплаэлектрастанцыях у Лодзі, Познані, Варшаве. На паўгода выслалі мяне на аўтарскі нагляд у Электрастанцыю ў Тузлі ў Югаславіі і на два з паловай года ў Бакара ў Індыю. У вольны ад працы час пісаў я вершы і высылаў іх у „Ніву", і яны друкаваліся не толькі ў „Ніве", а таксама ў „Беларускіх календарах" і альманахах, якія выдавала БГКТ. Часам іх друкавалі ў часопісах і кнігах у БССР. У 1959 годзе Галоўнае праўленне БГКТ выпусціла ў свет першы зборнік вершаў „Рунь", у якім надрукавалі чатыры мае вершы... Вольныя ад працы дні я правёў **на падарожжах**. Я, як ветэран вайны, меў у год сорак дзён водпуску. Аб'ехаў і пабачыў многа цікавых курортаў Польшчы, а пасля іншых краін. Прыватна паехаў з жонкай і дзяцьмі ў Румынію ў Мамаю, у Балгарыю на курорт „Залатыя Пяскі", пасля ў Бялград і ў Дуброўнік, з жонкай праехаў у Турцыю, Грэцыю, Венгрыю ды Харватыю. З жонкай і дачкой быў у Парыжы. Аб'ехаў поўдзень Францыі, бо атрымалі мы запрашэнне з-пад Альбі ад жончыных сваякоў. У 1975 годзе я закончыў курсы замежных гідаў і турбюро «Орбіс» давала мне два разы ў год быць гідам многіх цікавых замежных экскурсій. Я аб'ехаў па „Грузінскай ваеннай дарозе" з Тбілісі да Арджанікідзе (сёння Уладзікаўказ), лятаў самалётам з Масквы ў Баку і з Баку ў Эрэван, з Варшавы ў Ташкент, з Ташкента ў Самарканду, з Самарканды ў Бухару, з Бухары ў Алма-Ату і з Алма-Аты ў Маскву... Быў два разы на Крыме ў Ялце, аглядаў палац султана ў Бахчысараі, таксама быў у Сочы, Сухумі і Адлеры, Піцундзе і іншых курортах Каўказа... Бачыў, як мае пабудовы ў Тузлі бамбардавалі «міратворцы»... І ўсё пішу...



■ Злева: Дзмітры Шатыловіч, Георгій Валкавыцкі, Васіль Петручук, Віктар Швед



■ Дзмітры Шатыловіч, Сакрат Яновіч

(лук)

# Гартаючы памяць...





Як гавораць у народзе — сяброў многа не бывае. Але сапраўдных сяброў, якія не чакаюць ад цябе нечага большага, чым павага, любоў, падтрымка, можна без сумнення пералічыць на пальцах адной рукі.

І першай такой асобай для мяне з'яўляецца дарагі мне чалавек з Гайнаўкі — Марыся Балтромюк. У бягучым годзе нашым адносінам — 20! За гэты час я пастаянна адчувала духоўную блізкасць з ёю: у поглядах на літаратуру, у адносінах да людзей, да падзей культурнага жыцця, да кулінарных вынаходніцтваў і г.д. Сястра па духу — так бы назвала нашы стасункі.

Як чалавек камунікабельны, Марыся хутка ідзе на кантакт з незнаёмымі людзьмі, умее падтрымаць гутарку, зацікавіць сваімі ведамі. Адпрацаваўшы настаўніцай польскай мовы ў Гайнаўцы, яна і дагэтуль з цеплынёй узгадвае сваіх вучняў — старанных і не вельмі. З некаторымі з іх падтрымлівае сувязь і сёння.

Начытаная, эрудыраваная, яна можа даць ацэнку як музычным, так і мастацкім творам (неаднойчы адклікалася на просьбы пісьмова выказаць свае адносіны да экспануемых на выставах карцін або да вынаходніцтваў кампазітараў). Да яе ацэнкі прыслухоўваюцца, бо гэта таго варта.

Заўсёды пунктуальная, яна ніколі не падводзіла людзей, дамаўляючыся аб сустрэчы. З ахвотай дапамагае тым, каму ў гэтым жыцці не пашчасціла. Гляджу часам на яе і думаю: як у гэтай маленькай жанчыне месціцца столькі дабрыні, ласкі, сардэчнай цеплыні і зычлівасці. Ніколі не бачыла яе ў гневе. Ніколі не пляткарыць, бо ёй ёсць аб чым пагаварыць на цікавыя тэмы! Любіць наведваць музеі, выставы, вернісажы, тэатры, бываючы ў Варшаве, Любліне, Кракаве і іншых месцах.

Яе дом заўсёды рады гасцям: тут утульна, гасцінна і сытна. (Часам здзіўляюся яе мужу Валодзі, які моўчкі церпіць навалу незнаёмых людзей у іх доме).

Марыся добра ведае маіх сябровак, для кожнай з іх у яе заўсёды ёсць пачастунак. Узамен яна атрымлівае ўдзячнасць і нешта нейкае таксама.

Яе лісты і паштоўкі нязменна пачынаюцца зваротамі: „Тамара, Тамарачка, Тамарка", „Мілая Тамара", „Дарагія мае цудоўныя Тамарыны сяброўкі і крыху мае" і г.д.

Адзін з апошніх лістоў пачынаўся такім зваротам: „Дарагія мае высокаўскія сяброўкі ад Тамары! Пасылаю вам урывак верша Міры Лукшы і мой пераклад яго на польскую мову: „Мая душа гаворыць з вашай у белай хмары над Падляшшам..."

Ад такой душэўнасці і любові на вачах выступаюць слёзы замілавання цудоўным чалавекам.

Тонкая душэўная арганізацыя Марысі адразу знаходзіць водгук у сэрцы кожнага, каму пашчасціць пазнаёміцца з гэтай жанчынай.

Бясконца можна гаварыць пра маю дарагую сяброўку — няўрымслівую, зацікаўленую жыццём ва ўсіх яго праявах, бездакорную і любімую. Удзячная лёсу, які звёў мяне з ёю, каб пасяліць яе вобраз у маёй душы назаўсёды.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

## https://radavod.fandom.com/be



Прасачыць гісторыю сваёй сям'і заўсёды вельмі цікава і пазнавальна. Праўда, далёка не кожны можа пахваліцца даўнім радаводам, бо звычайна апісвалі сваё генеалагічнае дрэва тыя, хто належаў да шляхетных саслоўяў. Большасць жа нашага народу ўсё ж такі з сялян ці мяшчан. Тым не менш нават тыя радаводы, што ёсць, вартыя для азнаямлення. Бо праз іх можна не толькі пазнаёміцца з гісторыяй той ці іншай сям'і, але і больш дакладна даведацца пра гісторыю ўласнага народа.

Пра сайты, якія змяшчаюць радаводныя расповеды, „Ніва" пісала раней. Але ёсць у інтэрнэце сайт, які прэтэндуе на званне генеалагічнай Вікіпедыі. Месціцца ён па адрасе **https://radavod.fandom.com/be**. „Вітаем у Radavod Wiki — вольнай генэалягічнай энцыкляпэдыі, якую можа рэдагаваць кожны", — распавядаецца на яго галоўнай старонцы. Праўда, пакуль рэдагаваць можна мала што, бо на сайце ўсяго толькі 57 артыкулаў, гэта значыць столькі на сайце радаводных гісторый.

„Radavod Wiki — вольная генэалягічная энцыкляпэдыя, якую можа рэдагаваць кожны. Працоўнай мовай дадзенае вікіпэдыі зьяўляецца беларуская ў незалежнасьці ад правапісу (афіцыйнага ці клясычнага). Забараняецца выпраўленьне артыкулу напісанага ў вадным правапісе на іншы. Адначасова дазваляецца напісаньне артыкулу на іншых мовах і беларускай лацінцы, але гэтыя вэрсіі будуць толькі дадатковымі із зьместам, што дублюе тэкст на беларускай мове кірыліцай. На сайце будзе зьмяшчацца генэалягічная інфармацыя пра разнастайныя роды незалежна ад іх этнічнага паходжаньня, веравызнаньня й сацыяльнага статусу. Таксама тут можна будзе знайсьці зьвесткі пра асобных прадстаўнікоў памянёных родаў, населеныя пункты, зьвязаныя зь іхным жыцьцём, даведацца пра іхную творчасьць і дзейнасьць", — пішуць тарашкевіцай стваральнікі сайта.

Паводле інфармацыі на Radavod Wiki, першы артыкул з'явіўся на ім амаль дзесяць гадоў таму — напрыканцы мая 2010 года. З гэтага можна зрабіць высноў, што хуткасць з'яўлення новых артыкулаў вельмі павольная, калі за мінулыя дзесяць гадоў удалося іх сабраць менш за шэсць дзясяткаў.

„Генэалягічныя вікіпэдыі існуюць таксама на іншых мовах: на ангельскай — Familypedia, расейскай — Genealogia Wiki, і французкай — Familles", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. І калі зазірнуць у кожную з вышэйпазначаных, то можна ўбачыць, што падобных англамоўных артыкулаў больш за 260 тысяч, рускамоўных — 183, а франкамоўных — 360.

У правілах сайта адзначаецца, што заснавальнікі і адміністрацыя Radavod Wiki не ажыццяўляе збор, апрацоўку і распаўсюджванне персанальных даных, у тым ліку ў карыслівых мэтах і інтарэсах трэціх асоб. Галоўная мэта праекта — стварэнне магчымасці для фізічных асоб для пабудовы генеалагічных дрэў і аб'яднання людзей і іх дрэў па ўсім свеце.

У сваю чаргу той, хто захоча распавесці на сайце пра сваіх родных і продкаў, павінен атрымаць вусны або пісьмовы дазвол ад членаў свайго дрэва на апублікаванне інфармацыі пра іх. Не дазваляецца публікацыя персанальных даных, а адміністратары і іншыя ўпаўнаважаныя асобы маюць права безумоўна выдаляць такую інфармацыю, як тэлефоны, рэквізіты дакументаў, адрасы пражывання і т.п.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара Дата з Календара
Дата з Календара Дата з Календара
Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

## *80 гадоў з дня нараджэння*
# Уладзіміра ПУЗЫНІ

Беларускі музыкант, майстар-рэстаўратар нацыянальных музычных інструментаў, педагог Уладзімір Пузыня нарадзіўся 26 лютага 1940 г. у вёсцы Суцін (Пухавіцкі раён Мінскай вобласці). Паходзіў са шляхецкага роду.

У 1964 г. скончыў Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі, пазней Мінскі інстытут культуры. У Магілёве скончыў школу мастацтваў, дзе вучыўся рэстаўрацыі. У 1965-1978 гг. працаваў артыстам Дзяржаўнага народнага аркестра Беларусі імя Жыновіча. Адначасна з 1972 г. працаваў у Мінскім абласным, у рэспубліканскіх навукова-метадычных цэнтрах народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы.

З 1979 г. Уладзімір Пузыня працаваў як педагог-ілюстратар сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай кансерваторыі, старшым метадыстам па фальклоры пры Мінскім абласным метадычным цэнтры. З 1982 г. майстар, у 1983-1988 гг. — загадчык вучэбнай майстэрні па рэстаўрацыі, рамонце і вырабе народных музычных інструментаў Мінскага інстытута культуры.

Сучаснікам Пузыня вядомы як стваральнік музея беларускіх музычных старажытных інструментаў „Беларуская хатка". У 1980-я гг. пашанцавала шмат якім маладым музыкам, якія траплялі да яго ў суполку. Пузыня вырабляў беларускія народныя музычныя інструменты: сапранавыя аэрафоны, альтавыя, басовыя дудкі, жалейкі, дуды, трубы і іншыя. Таксама вырабляў так званыя хардафоны — колавыя ліры, басэтлі і іншыя інструменты. Адрадзіў у тым ліку такі інструмент як хорум — па словах майстра пра яго згадваецца ў Радзівілаўскім летапісе XIII стагоддзя. Хорум высушвалі з гарбуза — унізе трэба было дзьмуць, там меліся галасавік і бурдон, унізе рагавень. Пузыня выступаў і граў на беларускіх музычных інструментах у канцэртных праграмах, фэстах народнай творчасці, на мітынгах і ўрачыстых пасяджэннях дэмакратычнай супольнасці.

Вось як выказаўся пра свайго настаўніка лідар гурту „Стары Ольса" Зьміцер Сасноўскі:

„Уладзімер Пузыня быў сымбалем, які зьвязваў аж тры пакаленьні музыкаў. Гэта тое пакаленьне — Цітовіч, Лычкоўскі, Жукоўскі, — якія выраблялі народныя інструмэнты, адраджалі і вярталі зь нябыту... Другое пакаленьне музыкаў — 80-90-ых гадоў. І, нарэшце, гэта настаўнік для тых, хто граў на народных інструмэнтах. Уладзімер Пузыня быў старэйшым жывым майстрам, які выраблаў такі сымбалічны для Беларусі інструмэнт, як дуда... Толькі аднойчы за апошнія шэсьць год ён выйшаў і граў на сцэне, бо ў яго было кепскае здароўе. Але ён заставаўся сымбалем. Сымбалем, які зьвязваў настолькі розныя часы і настолькі розных людзей".

Мастак, музыка, дудар Тодар Кашкурэвіч казаў, што ўся дудовая плынь удзячная Пузыню: „Чалавек рабіў шэраг памылак у аднаўленьні музычных інструмэнтаў. Але ён рабіў гэта шчыра. Але галоўнае, што ён зрабіў, — ён аднавіў беларускую душу. Надзвычай сымбалічны інструмэнт, які ён зрабіў, — гэта чаротка. Што гэта такое? Гэта проста саломінка, сьмецьце. Але ён быў такі дыхтоўны чалавек, што ён нават зрабіў для яе футарал".

Сучасную беларускую музыку зараз немагчыма ўявіць без старажытных народных інструментаў. Гучанне шмат якіх гуртоў стала ўнікальным і пазнавальным дзякуючы інструментам Пузыні. У яго замаўлялі інструменты для праектаў гуртоў „Крыві" і „Палац".

Апошнія гады Уладзімір Пузыня жыў у сваім прыватным доме ў вёсцы Ганалес пад Мінскам. Памёр 18 верасня 2012 года ў Мінску ў веку 72 гадоў. Пахаваны на сталічных Паўночных могілках.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Бар „Тапалянка”

Многа гадоў існуе даволі вялікі бар „Тапалянка” на пасёлку Выгода ў Беластоку па вуліцы Васількоўскай. Пра яго я чуў толькі пахвальныя словы ад знаёмых, між іншым, тое, што ў гэтым бары смачныя і недарагія абеды. Выбраўся я паабедаць у „Тапалянцы” 18 лютага гэтага года. Яна адкрыта штодзень ад гадзіны 8 да 20. У прасторным бары пры століках адначасова можа знайсці сабе месца 80 асоб. У абедзенную пару падсілкавацца прыходзіць сюды многа людзей, пераважна мужчын. Прыемна тут і ўтульна. Для ўсіх хапае месца. Ёсць вешалкі на паліто, шапку.

Кухаркі кожны дзень вараць пяць відаў супоў, рыхтуюць больш дваццаці вараных, тушаных і печаных мясных, рыбных і з сырам страў (катлетак было пяць відаў), салаты з рознай агародніны. Ёсць і салодкія стравы да выбару. Стравы можна ўзяць з сабой на вынас. Я выбраў сабе мясную страву — каркуўку — з кашай і грыбным соўсам, салат з агародніны, трускалачны кампот ды будынь з канфітурай. Смачна паеў і заплаціў 20 злотых. Цана вось так сабе. Варта сюды заходзіць. **(яц)**

## Халодныя лавачкі

У прасторнай прыгожай пачакальні новапабудаванага вакзала ПКС у Беластоку паставілі пару соцень трывалых жалезных лавачак для карыстальнікаў пасажырскіх транспартных паслуг гэтай фірмы. Лавачкі прыгожыя, але... зараз вельмі халодныя. Вядома, жалеза ж.

19 лютага гэтага года вяртаўся я з Беластока ў Новае Ляўкова. Купіў білет і прысеў на нейкія 10 хвілін на лавачцы ў пачакальні і хаця меў на нагах цёплыя кальсоны і такія ж нагавіцы, змёрз у заднюю частку цела. Нават у цёплым аўтобусе той холад адчуваў я з паўгадзіны. Па-мойму, жалезныя лавачкі непрыязныя чалавеку. Можна лёгка прастудзіцца і захварэць. І то дзе, не на двары а ў будынку вакзала, у якім ад ранку да вечара многа людзей і даволі цёпла.

Мо наступным разам вазьму з сабой у дарогу невялічкую падушачку або шмат газет? Бо які ж іншы выхад у такой сітуацыі? Неабходна шукаць ратунку. А што на гэта ніўскія чытачы? Якая іншая рада. Ну, можа ўвогуле не сядаць. Ды на вакзал ПКС прыходзяць людзі ўжо стомленыя бегатнёю. **(яц)**

## Вёска, якую ўвабраў горад

Пачынаю свой допіс ад нараджэння маёй мамы ў 1920 годзе ў вёсцы Дольнае каля Гайнаўкі. Ёсць такі метрычны запіс. І горад увабраў колішнюю вёску. Зараз застаўся ад яе пасёлак Дольнае ў Гайнаўцы (з вуліцамі Вятраковай, Ураджайнай, Пшанічнай, Жытняй і Саланечнікавай) ды вуліца Дольная.

У вёсцы Дольнае жыў мой дзед Фёдар Прыступюк з сям'ёй. У яго былі дзве жонкі і пяцёра дзяцей. Драўляная хата стаяла ў канцы сяла ў прыгожым месцы каля скрыжавання чатырох дарог. Тут раслі вербы і вясной цяклі раўчукі. Дзедаву хату бачыў я толькі адзін раз. Тады я быў у пяцігадовым узросце. Мая мама разам са мной прыехала поездам з вакзала ў Плянце ў Гайнаўку і наведала сваю мачаху. Многа гадоў яна сюды не збіралася ехаць. І захацела паказаць свайго сына. Была адзіная такая сустрэча ў маміным і маім жыцці.

У Гайнаўцы Прыступюкі жывуць пры вуліцах Дольнай (адзін дом), Паддольнай (адзін дом), Электрычнай (два дамы) і пры вуліцы Скарпавай (катэдж Уладзіміра і Ніны Прыступюкоў). Гэтыя апошнія перабраліся бліжэй цэнтра горада з вялікага драўлянага дома з пасёлка Дольнае. Дзед меў шмат участкаў зямлі. Надзяліў імі дзяцей. Мая мама адступіла сваю „долю” сястры Вользе. Цяпер пры вуліцы Электрычнай жыве яе сын Юрка Барташук (ён мой хросны). Яго бацькі паўміралі. Юрка атрымаў ад іх вялікі ўчастак зямлі. Раней за стадолай раслі вішні і яблыні, былі агарод і сенажаць з белай і чырвонай канюшынай. І так гэта ўсё захавалася. Вясной і летам тут вельмі прыгожа і прыемна. **(яц)**







## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. прыстасаванне для распальвання агню = 17 _ 9 _ 14 _ 3 _;
2. абрад памінання нябожчыкаў, продкаў = 19 _ 20 _ 21 _ 18 _ 23 _;
3. адмераная колькасць лякарства = 5 _ 4 _ 6 _ 2 _;
4. хімічны элемент н-р 53 = 15 _ 1 _;
5. у граматыцы адзіночны або множны = 29 _ 7 _ 28 _;
6. зброя рыцара = 31 _ 27 _ 22 _;
7. партнёр пані = 26 _ 30 _ 16 _;
8. вадкі метал = 11 _ 12 _ 13 _ 24 _ 25 _;
9. возера на Віцебшчыне, якое прымае раку Шошу = 8 _ 10 _ .

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | 14 | | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**

Веер, куб, май, пас, пояс, Сан, Сож, уюн, яна.

Рашэнне: **Кожная сасна свайму бору песню пяе**.

## 01.03 — 07.03

**(22.03. — 20.04.)** Задумайся аб адкрыцці свайго бізнесу. Спрыяльны перыяд для рэалізацыі абдуманых планаў. Сакавік падыходзіць для любых глабальных пачынанняў — спорце, вучобе, навуцы, мастацтве. Фінансавая сфера: спакойны і ўмераны перыяд. Прадстаўніца ўдалая магчымасць — без роздуму прымай яе. Часам захочацца правесці гадзіны ў адзіноце, але выходзь у свет.

**(21.04. — 21.05.)** Месца пасярэдзіне — прыгожае, але дабрацца туды не заўсёды магчыма. Калі прастора паміж табой і кімсьці іншым занадта вялікая, то гэта можа быць занадта вялікім кампрамісам, каб знайсці сярэдзіну, або, што яшчэ горш, калі ўсе бакі не згодныя, дзе знаходзіцца сярэдзіна; тады табе цалкам не пашанцавала. Памятай: калі трымаеш рэч занадта моцна, рызыкуеш зламаць яе. Выпрабуеш сваю здольнасць любіць без прыхільнасці, інвеставаць без патрабаванняў і імкнуцца без умоў. Рабі тое, у што верыш.

**(22.05. — 22.06.)** У сакавіку чакае цябе значны грашовы паток! Выдаткуй грошы на сябе і на набыццё падарункаў. Магчыма, прыйдзецца заплаціць за асаблівыя жаданні дзіцяці. Можаш выдаткаваць грошы на паездку. На працягу першых двух тыдняў сакавіка атрымаеш фінансавую дапамогу ад бацькі або ад настаўніка. Магчыма, прыйдзецца выдаткаваць значную суму на маці. Але ў наступным месяцы ўсё вернецца спаўна.

**(23.06. — 23.07.)** Хочаш змен? Тады разбярыся са сваімі думкамі. Пачні з выключэння камп'ютара, тэлевізара ці тэлефона і пасядзі з самім сабой. Гэта добрая, глыбокая праца для твайго эмацыйнага дабрабыту. Пошук гармоніі. Але некаторым Ракам неабходна больш структураваны час для працы. Рабі ўсё без пачуцця віны. І навучыся прымаць і любіць сябе з усімі перавагамі і недахопамі.

**(24.07. — 23.08.)** Ільвы атрымаюць выдатную магчымасць паказаць свае вартасці перад навакольнымі. Аднак не варта забываць і пра недахопы. Да важнай сустрэчы пастаўся сур'ёзна, падрыхтуйся да важнай падзеі. Дзелавыя размовы патрабуюць падрыхтоўкі ў прафесійным плане, а любоўныя сустрэчы — шчырых пачуццяў і самааддачы. Гэтыя сустрэчы могуць стаць ключавым момантам у змене жыцця ў лепшы бок.

**(24.08. — 23.09.)** Ідэальны час для наладжвання сувязей з навакольнымі. Начальства павінна даведацца аб тваіх поспехах, звярні на сябе ўвагу. Хочаш папоўніць свой бюджэт? Тады не трэба ленавацца і перакладаць абавязкі на іншых. Бярыся за рэалізацыю самых складаных праектаў, удача на тваім баку. Схадзі ў тэатр, паглядзі цікавы фільм, запішыся ў спартыўную залу

**(24.09. — 23.10.)** Час для рэалізацыі сваіх мэт і мар, удзелу ў групавых мерапрыемствах і пачынаннях. Можаш узяць на сябе вядучую ролю, і праводзіць час з сябрамі і заводзіць новых. Гэта выдатны час для пачатку новага праекта. Прыйшоў час прааналізаваць і перагледзець, каб падрыхтавацца да новага этапу.

**(24.10. — 22.11.)** Час вельмі насычаны — у плане эмоцый, падзей і задач на перспектыву. Не панікуй. Такі актыўны рух паможа справіцца з лянотай. Праз тыдзень — пачатак інтэнсіўных камунікацый. Будзеш нават стамляцца ад патоку інфармацыі. Але такі мазгавы штурм, як ніколі, карысны цяпер.

**(23.11. — 22.12.)** Увесь месяц удачы на кожным кроку, гэта тычыцца па большай часці работы. Наладзь адносіны з калегамі і шэфам, навучыся прымаць рашэнні калектыўна. Пакуль не выкарыстоўвай новых ідэй і ходаў, рабі ўсё так, як прывык. Могуць з'явіцца праблемы са скурай — з-за печані ці страўніка. Звярні ўвагу на тое, як харчуешся.

**(23.12. — 20.01.)** Шматабяцальныя магчымасці. Шанц заявіць пра сябе перад кіраўніцтвам. Прыйшоў твой час! Сваім справам неабходна прысвяціць увесь свой час. Пераканаешся, што твая другая палавінка — надзейнае плячо, на якое можна абаперціся. Не высвятляй адносін па недарэчных падставах.

**(21.01. — 19.02.)** У сакавіку — адны ўдачы. Поспехі на працы, у любові і хобі могуць здацца нерэальнымі! Аднак не расслабляйся і выпускай усё на самацёк. Шанцаваннем карыстайся правільна. Бо ўжо заўтра ўдача можа адвярнуцца. Менавіта стараннi і цяжкая праца ствараюць белую паласу. У спакойны і ціхамірны перыяд сустрэнься з сябрамі ці далёкімі сваякамі і добра правядзі час.

**(20.02. — 21.03.)** Адпраўляйся ў падарожжа. І не трэба адгаворак, што грошай няма. Іх цяпер у нікога няма. Сядзь на цягнік у суседні горад, знайдзі месца ў хастэлі і пабадзяйся. Чалавек павінен адпраўляцца туды, дзе не бываў яшчэ ні разу. А то мазгі заржавеюць.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Прагрэс і рэгрэс



Будынак новага чаромхаўскага вакзала

У Чаромсе нейкі час таму быў здадзены ў карыстанне новы чыгуначны вакзал. Парупіла мне падацца туды і пабачыць тую навінку. Калі вакзал чыгуначны, то выпадала б падацца туды чыгункай...

З гэтай нашай мясцовай чыгункай цяжка ладзіць лады. Вось яна, чыгунка, ці, дакладней кажучы, ейнае кіраўніцтва любіць ставіць перад пасажырамі даволі сур'ёзныя задачы. Бо вельмі часта здараецца, што заміж поезда па рэйках курсіруе ў нас заменны аўтобус па зусім іншых дарогах. І будзь тут добры, і здагадвайся, адкуль забрацца на той чыгуначны транспарт — ці з чыгуначнага прыпынку, ці з аўтобуснага. Шчасліўвенька, што інфармацыя пра від транспартнага сродка падаецца ў інтэрнэце... Але прыпынкі падаюцца чыгуначныя, незалежна ці той транспарт заязджае туды ці не.

Зараз, у лютым, „цягнікі" курсіруюць па паралельных да чыгуначнай лініі асфальтоўках, а нават часам з'язджаюць і на жвіроўкі. Мне гэта нават і прыдалося, бо такім чынам мог пабачыць як прагрэсіруе абнаўленне шашы з Бельска ў Полаўцы...

Але па чарзе. Згадаў я пра жвіроўку — па ёй чыгуначны аўтобус калясіць паміж Плюцічамі і Райскам. Аднак магчыма, што ў недалёкай будучыні і там не стане гравійкі. Бо ўжо ад раенскай царквы аж да лесу ляжыць роўненькі асфальт, свежанькі. Гэта абнадзейвае, што з Плюціч можна будзе даехаць у павятовы і гмінны цэнтр па прыстойнай дарозе, бо цяпер асфальтавая дарога цераз Храбалы даволі шчарбатая.

А цяпер пра абнаўленне дарогі ў напрамку палавецкага пагранпераходa. Цяпер там цераспалосіца, калі так можна назваць тое, што там дзеецца. Фрагментамі ляжыць там новае асфальтавае палатно, фрагментамі старое. Побач шашы пракладваецца таксама і веладарожка. У некаторых месцах, напрыклад каля Пашкоўшчыны, крутыя павароты шашы палагоджваюцца. У Малінніках рамонт вуліцы ў разгары, у Сухавольцах у завяршэнні, пракладзены там мілавідныя тратуары. Ад Сухавольцаў да Чаромхі-Вёскі ляжыць ужо і паласа веладарожнага асфальту; верагодна, што і далей, але я туды не наведваўся. У Кляшчэлях рамонт галоўнай вуліцы, перабудаваны таксама мост на Нурцы.

Новы вакзал у Чаромсе даволі прывабны. Чыгуначны аўтобус спыніўся на стаянцы перад вакзалам. І тая стаянка адразу мяне абрадавала, асабліва ж некалькі пляцовак, абазначаных літарамі „Kiss-and-Ride-K+R". „Пацалунак і ў дарогу" — так бы можна назваць гэты пасыл; вельмі сімпатычны. Асабліва ж у наш спешны час, час дэгуманізацыі, калі чалавек не заўсёды асэнсоўвае важнасць міжчалавечага кантакту. Пацалунак на дарогу — якія ж гэта цёплыя словы, задушэўныя, якія грэюць і тагo, хто адпраўляецца цягніком у далёкі свет, як і таго, хто вяртаецца самаходам з вакзала ў свой дамашні ачаг...



Не толькі для аўтамашын там стаянка. Таксама для веласіпедаў шмат месца адведзена пад абшырнай павеццю.

Сам вакзал даволі ўтульны, камерны, выгадны, мадэрны. Тут прыемна чакаць поезда ў непагадзь, але і ў пагоду таксама цікава. Менавіта перад вакзальным будынкам, пад адкрытым небам спланіравана месца для прыемнага каратання часу. Тут выгадныя лавачкі і ў крузе, амфітэатральна, і ў шарэнзе — для большай і меншай кампаніі. Клас!

Тры адпраўныя пероны і тры паветкі на іх. Бо ж зараз з Чаромхі тры лініі для мясцовых камунікацый: у Беласток, Гайнаўку і Седльцы.

А як жа ўсё пачалося? 9 жніўня 1873 года рушыла Берасцейска-Граеўская чыгунка. У 1906 годзе праз Чаромху пайшла чарговая лінія — з Седльцаў у Полацк. Вакзал быў пабудаваны ў 1907 годзе. 12-19 верасня 1939 года Чаромха апынулася пад нямецкай адміністрацыяй; пазней у сілу дагавора Рыбентроп-Молатаў была тут усталявана савецкая ўлада. З 23 чэрвеня 1941 года пад нямецкай акупацыяй. 19 ліпеня 1944 года адступаючыя немцы ўзарвалі будынкі чаромхаўскага чыгуначнага вузла. 28 ліпеня 1944 года ўваходзіць Чырвоная Армія, а 15 жніўня саветы перадаюць Чаромху пад польскую адміністрацыю. З ходам часу і сам чыгуначны пасёлак развіваецца, паўстаюць прадпрыемствы, якія працуюць на чыгунку — паравознае і вагоннае дэпо, насычальня шпал... Устанаўліваюцца вуліцы, усталёўваецца мясцовая адміністрацыя, Чаромха становіцца гмінным цэнтрам. У 1986-1989 гадах будова новага вакзальнага будынка; ад вайны да таго часу памяшканні для пасажыраў знаходзіліся ў трафейным драўляным бараку. Падобныя баракі ў той час функцыянавалі таксама ў Бельску, Гайнаўцы, Рыгораўцах ці Нараўцы...

А зараз на чаромхаўскай чыгуначнай станцыі красуецца новы вакзальны будынак. Толькі вось клопат з дэмаграфіяй. У 1960-х гадах, калі мне прыходзілася часта перасядаць на чаромхаўскай станцыі, было там заўсёды поўна народу; амаль кругласутачна працаваў буфет. Нават у час глыбокай ночы вакзал жыў. Курсіравалі тады цераз чаромхаўскі чыгуначны вузел цягнікі з Гайнаўкі ў Варшаву і з Любліна ў Беласток. І цягнікі мясцовага курсіравання таксама не спалі з раніцы да вечара. І паввывозілі наша мясцовае насельніцтва ў шырокі свет. І цяпер на чаромхаўскім вакзале пуста і... утульна.

Заехаў я ў Чаромху не на поездзе, а на нанятым чыгункай аўтобусе. Калі я спытаў праваднічку, чаму зноў заміж цягніка курсіруе аўтобус, тая не ўмела мне адказаць. Але паколькі заменная камунікацыя ўведзена бесперапынна на некалькі тыдняў, тады асмельваюся дадумвацца, чаму так дзеецца...

Вось не надта даўно быў здадзены ў карыстанне адрэзак з Бельска ў Гайнаўку. І толькі праехаў па ім бадай адзін поезд, як зноў тую ліні пачалі рамантаваць. Над мастамі і пратокамі сарвалі чыгуначнае толькі што пакладзенае палатно. Разбурылі старыя масты і пратокі ды сталі будаваць новыя... А не маглі так адразу пабудаваць запар з пракладкай новага палатна і новых мастоў? Можа і маглі, а можа тады не да іх было. А крыху пазней наша чыгунка атрымала багатую долю грошай з Еўрасаюза. І трэба было тыя грошы неяк расходаваць; або вярнуць назад у еўрасаюзную касу.

І тут нашы чыны прыдумалі як тымі грашамі пакарыстацца. Як абнародаваў на вераснёўскім беластоцкім Усходнім эканамічным кангрэсе прадстаўнік нашых чыгуначных улад, чыноўнікі не праваронілі пакарыстацца тымі грашамі. І гэта відаць у нас: зараз рамантуецца нядаўна адрамантаваны будынак беластоцкага чыгуначнага вакзала. Рамантуюцца нядаўна рамантаваныя чыгуначныя лініі. І мяркую, што нешта такое адбываецца і на адрэзку між Беластокам і Чаромхай. Не прайшоўся я па цэлай лініі, не маю ўпэўненасці, але здагадваюся, што будуюць там нейкія новыя масткі ці пратокі заміж яшчэ нядаўна цалкам прыгодных старых. І на той час трэба было спыніць рух цягнікоў.

Мне яшчэ адна загвоздка — у нармальныя чыгуначныя вагоны можна было забрацца з байкам. А ў аўтобус, хаця ён і „чыгуначны", байкаў не забіраюць. Хацеў бы кудысьці паехаць байкам, бо зараз на публічныя аўтобусы складана разлічваць. Напрыклад, калісь можна было праехацца ў шматлікія мясцовасці пэкаэсаўскім аўтобусам і адтуль вярнуцца. А зараз? Для прыкладу — з Сямятыч у багаты гісторыяй Мельнік курсіруе толькі адзін аўтобус, пасля абеду. І з Мельніка ў Сямятычы таксама адзін — з раніцы. Каб з гміннай мясцовасці з'ездзіць у павятовую і пасля вярнуцца. А наадварот, што было б мне зручна, няма магчымасці...

Ну, прагрэс ёсць. Якасны. А колькасны — рэгрэс...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


ISSN 0546-1960